«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№9(33) сентябрь 2012

# ВЕРНІКІ ОРШЫ ХОЧУЦЬ МАЛІЦЦА ПА-БЕЛАРУСКУ

**Для пачатку манахіня Данііла прапанавала зьбірацца на беларускамоўныя малітоўныя сустрэчы ў капліцы каля Сьвята-Пакроўскага манастыра, помніка архітэктуры 18 стагодзьдзя.**

Першая сустрэча адбудзецца на сьвята Пакравоў Божай Маці.

Праводзіць паўнавартасныя беларускамоўныя службы ў Сьвята-Пакроўскім храме на сёньняшні дзень немагчыма – у мясцовага прыходу няма ўласнага сьвятара, і ўвогуле ў Воршы праблематычна знайсьці праваслаўнага сьвятара, які пагадзіўся б правесьці набажэнства па-беларуску. Але актывісты спадзяюцца, што іхную прапанову пачуе беларускае сьвятарства, і з часам ахвотныя знойдуцца – каб калі не пераехаць у Воршу, дык прыяжджаць да беларускамоўных вернікаў хаця б час ад часу. Таму папярэдне манахіня Данііла прапанавала праводзіць беларускамоўныя супольныя малітвы і духоўныя сустрэчы – тое, што можа адбывацца і без запрашэньня сьвятара.

Апроч таго, да манахіні Даніілы зьвярнуліся краязнаўцы і прадстаўнікі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ, стваранай партыі БХД, а таксама грамадзкіх арганізацый – з тым, каб прапанаваць дапамогу ў аднаўленьні помніка, які вымагае грунтоўнай рэстаўрацыі.

Манахіня Данііла распавяла карэспандэнту Свабоды пра пэўныя зрухі, што да рэстаўрацыі помніка архітэктуры – жылога корпусу манастыра. Паводле яе, ужо распрацоўваецца праект рэстаўрацыі, прычым аднавіць будынак плянуюць у першапачатковым выглядзе, пакінуўшы ўсе архітэктурныя адметнасьці.

Помнік архітэктуры знаходзіцца ў занядбаным стане не адно дзесяцігодзьдзе, у 2003 годзе ён быў перададзены праваслаўнай япархіі, і аршанцы неаднаразова зьвярталіся ў пракуратуру, да мясцовых уладаў і ў Міністэрства культуры, каб



рэшткі храма хаця б закансэрвавалі ад далейшага разбурэньня.

Пасьля таго, як будзе гатовы рэстаўрацыйны праект, мае распачацца аднаўленьне помніка, у якім плянуюць разьмясьціць музэй, прысьвечаны беларускім сьвятыням, і сацыяльны прытулак. Будзе тут і храм, які мае шанец стаць адзіным праваслаўным прыходам у Воршы, дзе загучыць беларуская мова.

Усіх ахвочых дапамагчы рэстаўрацыі манахіня Данііла заклікае рабіць ахвяраваньні на рахунак: Р/р 3015335456015, УНП 300986971 ЦКО №4 дырэкцыя ААТ «Белінвестбанк» г. Ворша, вул. Леніна, 26а, БІК 153001739. Атрымальнік – прыход Сьвята-Пакроўскага храма г. Ворша Віцебскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Або прыйсьці на набажэнства ў капліцу каля храма і пакінуць ахвяраваньні там.

svaboda.org

# ШТО Я СКАЖУ САВЁЙ ГРАМАДЗЕ?

**Сайт Narodny.by авесьціў конкурс «Народны журналіст-2012» на найлепшы тэкст, фотарэпартаж, відэа, аўдыё, блёг пра мясцовыя праблемы.**

Да ўдзелу запрашаюцца грамадзяне Беларусі, якія жывуць у Беларусі й хочуць зрабіць краіну лепшаю. Любога ўзросту, месца жыхарства, партыйнасьці й палітычных поглядаў. Але ўдзельнікі не павінны быць прафэсійнымі журналістамі.

Патрабаваньні да матэрыялу:

- не публікаваўся раней;
- розных жанраў: нататка, інтэрвію, рэпартаж, хроніка падзеяў, нарыс, спокліч, сэрыя інфармацыйных матэрыялаў, кліп, блёг, відэаблёг і г. д.;
- частка́ю тэкставага матэрыялу могуць быць выявы (фатаграфіі, графікі, схемы, табліцы, лягатыпы, карыкатуры, плякаты й г. д.);
- можа быць рознага памеру;
- відэаматэрыял зьняты любым чынам: відэа-, фота-, вэб-камэрай;
- мае быць напісаны для пэўнай мэты: разавая публікацыя; незалежная газэта ці мясцовае пэрыядычнае выданьне; выданьне малога накладу; мясцовы інтэрнэтавы рэсурс ды інш.;
- адкрыты для публікі.

Кожны матэрыял павінен пачынаць (суправаджаць) г. зв. лід: кароткае рэзюмэ, якое прыцягвае ўвагу, памерам да 250 знакаў.

Каб узяць удзел у конкурсе, неабходна даслаць працу на электронны адрас: narodny.zurnalist@gmail.com ці праз форму на сайце narodny.by, ці на паштовы адрас: а/с 24, 220002 г. Мінск, абвязкова пазначыўшу кантактныя дадзеныя, імя, прозьвішча або псэўданім.

Апошні тэрмін падачы заявак: 18.00 20 кастрычніка 2012 году.

Падрабязная інфармацыя пра конкурс і патрабаваньні да працаў – на сайце: http://narodny.by/umovi/

# АЦЭНКА ВЫБАРАЎ 2012 ГОДУ

**Выніковая палітычная ацэнка ўмоваў правядзеньня парлямэнцкіх выбараў 2012 году была выкладена ў рэзалюцыі другой сэсіі пазачарговага XV Зьезду Партыі БНФ, 15 верасьня 2012 г.**

У студзені 2012 году Партыяй БНФ былі вызначаныя ўмовы і фармат удзелу партыі ў выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў пятага скліканьня. Першая сэсія XV Зьезду Партыі БНФ 4 жніўня, кіруючыся абранай тактыкай абумоўленага ўдзелу, вылучыла кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад Партыі БНФ. Пры гэтым Зьезд Партыі БНФ канстатаваў, што належныя ўмовы правядзеньня выбараў у першай фазе выбарчай кампаніі не былі створаныя:

– У вязьніцах застаюцца вязьні сумленьня, зьняволеныя на падставе іх палітычнай, грамадзкай дзейнасьці, шэраг палітыкаў знаходзяцца ў вымушанай эміграцыі, альбо абмежаваны ў правах.

– У выбарчым заканадаўстве адсутнічаюць гарантыі сумленнага, празрыстага і вартага даверу падліку галасоў, роўных умоваў вядзеньня передвыбарчай барацьбы для ўсіх палітычных суб'ектаў, а таксама ня створаныя рэальныя перашкоды фальсыфікацыям.

– У першай стадыі выбарчай кампаніі шырока ўжываўся адміністратыўны рэсурс на карысьць кандыдатаў, падтрыманых органамі выканаўчай улады, а акруговыя выбарчыя камісіі былі сфармаваныя без рэальнага ўдзелу прадстаўнікоў дэмакратычнай апазыцыі.

Далейшая хада выбарчай кампаніі паказала, што ўлады рэалізуюць яе ў ранейшым рэжыме адсутнасьці грамадзкага кантролю за падлікам галасоў, абмежаваньняў і рэпрэсіяў:

1) Адміністратыўны рэсурс у выглядзе заўчаснай агітацыі ў дзяржаўных мэдыях альбо з выкарыстаньнем працоўных калектываў дзяржаўных прадпрыемстваў шырока выкарыстоўваўся кандыдатамі, падтрыманымі органамі выканаўчай улады.

2) Для кандыдатаў ад Партыі БНФ, а таксама для іншых кандыдатаў ад дэмакратычнай апазыцыі, былі створаныя супрацьзаконныя перашкоды ў агітацыі, што асабліва яскрава праявілася ў:

– абмежаваньні месцаў і іншых магчымасьцяў для перадвыбарчых пікетаў;

– адмове друку передвыбарчай праграмы кандыдата ў дэпутаты Аляксандра Стральцова з выкарыстаньнем моваў польскай і літоўскай нацыянальных меншасьцяў;

– адмове шэрагу дзяржаўных выданьняў разьмясьціць у якасьці ілюстрацыі да праграмаў кандыдатаў Партыі БНФ нацыянальны гістарычна герб "Пагоня";

– незаконнай забароне для правядзеньня тэледэбатаў кандыдатам, што балатуюцца на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці.

3) Цэнзура праграмаў і выступаў кандыдатаў, а таксама забарона кандыдатам прымаць удзел у тэледэбатах у якасьці давераных асобаў іншых кандыдатаў былі ўведзеныя Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў проста ў часе кампаніі, што зьяўляецца прыкладам незаконнага абмежаваньня ўстаноўленых выбарчым кодэксам гарантыяў свабоды агітацыі.

4) З 233 прадстаўнікоў Партыяі БНФ і ГА БНФ "Адраджэньне", што былі вылучаныя ў склад участковых выбарчых камісіяў, у склад камісіяў былі ўключаныя толькі 13 чалавек, што пазбаўляе партыю ад магчымасьці ўдзелу ў падліку галасоў і адчыняе магчымасьці для бескантрольных маніпуляцыяў вынікамі волевыяўленьня выбаршчыкаў.

На падставе абранай Партыяй БНФ тактыкі абумоўленага ўдзелу ў выбарчым працэсе пазачарговы XV Зьезд Партыі БНФ канстатуе, што выбарчая кампанія была несвабоднай, непразрыстай, яна не давала магчымасьцяў кандыдатам на роўных канкураваць за галасы выбаршчыкаў і не адпавядала абавязальніцтвам Беларусі як краіны-удзельніцы АБСЭ, а створаныя без удзелу апазыцыі ўчастковыя камісіі ня могуць лічыцца органамі, што сумленна падлічваюць галасы выбаршчыкаў.

З улікам выкладзенага і кіруючыся папярэднімі рашэньнямі пра фармат і ўмовы ўдзелу ў выбарчай кампаніі, Партыя БНФ:

– скасоўвае сваё рашэньне аб вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў;

– заклікае выбаршчыкаў устрымацца ад удзелу ў галасаваньні на падстве адсутнасьці сумленных і справядлівых выбараў.

# "МАДЭРНІЗАЦЫЯ: БЕЛАРУСЬ І АБ'ЯДНАНАЯ ЭЎРОПА"

**Рух "За Свабоду" абвесьціў набор у школу "Мадэрнізацыя: Беларусь і аб'яднаная Эўропа". Навучаньне адбудзецца 5-10 лістапада ў адной з эўрапейскіх краінаў з удзелам беларускіх і эўрапейскіх экспэртаў. У тыднёвай праграме – лекцыі, дыскусіі, навучальныя візыты, сымуляцыйныя гульні і іншыя цікавыя мерапрыемствы (экскурсіі, кінапрагляды).**

Па выніках навучаньня лепшыя выпускнікі школы атрымаюць магчымасьці для рэалізацыі ўласнага праекта. Пасьпяховыя ўдзельнікі атрымаюць таксама рэкамендацыі для стажыроўкі ў эўрапейскіх арганізацыях.

Удзел у школе могуць узяць асобы ва ўзросьце 18-30 год, актыўныя ў грамадзкай і/або палітычнай сфэры. Працоўная мова – беларуская. Арганізатары пакрываюць выдаткі на праезд і пражываньне.

Каб узяць удзел, неабходна запоўніць ан-ляйн анкету па спасылцы: https://docs.google.com/spreadsheet/viewform?formkey=dGczX1JmZ2tNdFlfZHZOXzFoY0Vqa3c6MQ і напісаць эсэ на тэму "Што, на маю думку трэба мадэрнізаваць у Беларусі і як гэта найлепш зрабіць?" (2500-5000 сымбаляў) на электронны адрас: edu.mff@gmail.com.

Апошні тэрмін падачы заявак: 11 кастрычніка 2012 году.

Падрабязная інфармацыя – на сайце: http://www.pyx.by/bel/naviny/ruh/2481/

**«НАША ЖИЗНЬ»** – общественная газета. Издатель – коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор – **Христафор Желяпов**. Вёрстка – **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# АРЫШТ НА 7 СУТАК ЗА ЗАКЛІКІ ДА БАЙКОТУ

**Кастрычніцкі райсуд Віцебску прысудзіў 7 сутак арышту прыхільніку "Маладога Фронту" Яўгену Гуцалаву. Хлопец аднаасобна здзейсніў крэатыўную акцыю, заклікаючы быйкатаваць выбары: апрануў "маску" – партрэт Аляксандра Лукашэнкі і выйшаў з з плакатам "Байкот парламенцкім выбарам 2012" у цэнтр гораду.**




Менавіта таму, што актывіст вырашыў праводзіць акцыю ў самым цэнтры Віцебску, яго вельмі хутка "вылічылі" супрацоўнікі міліцыі. Бо тут усталяваныя відэакамеры, якія і зафіксавалі дзеянні хлопца. Апрача гэтага, на фотаздымках, размешчаных на сайце БХД, можна разгледзець татуіроўку на руцэ ў хлопца. І параўнаць яе з "арыгіналам" аказалася таксама дужа проста…

Зрэшты, Яўген Гуцалаў і не думаў хаваць таго, што праводзіў акцыю. Ён шчыра сказаў у судзе, што такім чынам выказваў уласную палітычную пазіцыю. А маску "Лукашэнкі" апрануў "для крэтыўнасці".

Суддзя **Іна Грабоўская** прысудзіла хлопцу 7 сутак арышту. Адны суткі ён ужо адбыў у ізалятары часовага ўтрымання: Гуцалава затрымалі ўчора на выбарчым участку, дзе ён быў назіральнікам, адвезлі спачатку на допыт у міліцыю, а потым змясцілі на ноч у ІЧУ.

Тая самая суддзя  Грабоўская ўжо судзіла актывіста за заклікі да байкоту, калі 3 ліпеня яго затрымалі за распаўсюд улётак каля віцебскага ЗАГСа. Яго аштрафавалі на 2,4 мільёны рублёў. Праўда, не за пікетаванне, а за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі і "лаянку матам" падчас затрымання.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"

# І ЗНОЎКУ ВЯРНУЛАСЯ Ў ПОЛАЦАК РАГНЕДА

**25-га і 26-га верасня ў палацы культуры "Полацк-шкловалакно" адбывалася тэатральная пастаноўка "Рагнеда". Прадставіў яе гледачам тэатр аматарскі калектыў "Пілігрым", на чале з рэжысёрам Верай Кісялёвай.**

На вячэнюю "Рагнеду" 26 верасня сабраўся поўны зал людзей. Незапоўненым застаўся толькі верхні рад, і гэта дзіўна, бо многім не хапіла квіткоў: ужо а палове сёмай жанчына на касе з сумным выглядам тлумачыла прыходзячым што "квіткоў больш няма", а пасля і ўвогуле паставіла за шкло паперку з аналагічным надпісам. Давялося назіраць шмат расчараваных твараў, якія адыходзілі ад касы.

Дзіўна працуе наша сістэма. Ля ўвахода ў тэатр можна было пабачыць групкі моладзі ды й дарослых, якія з запалам абмяркоўвалі розныя-розныя пытанні. Перыядычна ля якой-небудзь групы з'яўлялался адказная асоба з спісам імён на паперцы і квіткамі ў руцэ. То бок, як называюць у народзе "абязалаўка". Дарэчы, асабіста мне дастаўся квітокза 10 хвілін да пачатку з "распрадажы" – дзяўчына на ўваходзе проста прадавала квіткі, якія засталіся ад тых, хто не прыйшоў на п'есу.

Зала полацкага палаца культуры немаленькая і даволі ўтульная. Безумоўна, агромным мінусам з'яўляецца асветлены пульт музычнага кіравання, пасярод залы гледачоў. У кантрасце з чорнымі адценнямі сцэны ён непрыемна рэжа вочы. Але сама п'еса зачаравала з першых хвілінаў - народныя нацыянальныя строі, шыкоўнае, ідэальна падабранае, музычнае аздабленне зачаравала ўсіх прысутных, нават тых школьнікаў, што па-прывычцы залезлі "ўкантакцік". Амаль 2 гадзіны п'есы праляцелі імгненна. Гісторыя Рагнеды вывучаецца ўжо ў школе, і напэўна таму, две дзяўчыны, што сядзелі ля мяне, амаль увесь час "прдказвалі" далейшы ход падзей, і вельмі скептычна, чамусьці, аднесліся да словаў галоўнай гераіні аб страчаным гонары, годнасці, свабодзе.

Акцёры ігралі выдатна. Столькі імпэту, полымянасці, натхнення! Падавалася, што насамрэч




перад вачамі горды, непакорны Рагвалод, ваяўнічая і гарэзная Рагнеда, далёкае 862-е стагоддзе… Пасля заканчэння спектаклю заля доўга апладыравала акторам. Апладыравалі стоячы, многія прынеслі кветкі. Наўрад ці хто пашкадаваў патрачанага часу і грошаў. Асабіста мне падалося, што большасці прысутных спадабалася. І, мабыць, добра, што ў нас існуе такая "абязалаўка". Для многіх гэта рэальны шанец далучыцца да сапраўднай культуры, у віры гэта нястомнага мітуслівага свету.

Дар'я Міхайлоўская
westki.info

# ПІКЕТ ЯК ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ ЗАБАРОНЫ ПІКЕТАЎ

**У Воршы прайшоў пікет на знак падтрымкі Алеся Бяляцкага. Чацьвёра актывістаў выйшлі ў цэнтар гораду, надзеўшы майкі з партрэтам зьняволенага праваабаронцы.**




Пікет праходзіў у гістарычным цэнтры Воршы — на аршанскім гарадзішчы.

Аршанскі праваабаронца **Васіль Леўчанкаў**: «Наш пікет быў непрацяглы, але ён адбыўся, бо гэта наш пратэст і супраць несправядлівага зьняволеньня палітвязьня, і супраць таго, што мясцовыя ўлады не дазваляюць нам ладзіць пікеты ў падтрымку Бяляцкага на законных падставах. Колькі разоў мы ні падавалі заяўкі на такія мерапрыемствы, нам увесь час адмаўлялі».

Паводле ягоных падлікаў, у Воршы было забаронена каля дзясятка пікетаў у падтрымку Бяляцкага. Заяўкі падаваў і сам спадар Леўчанкаў, і іншыя актывісты.

# СЬЦЯГІ НА ПОЛІ АРШАНСКАЙ БІТВЫ

**Напярэдадні ўгодкаў гістарычнай бітвы пад Воршай, якая адбылася 8 верасьня 1514 году, аршанскія актывісты адведалі мясьціны, дзе войска ВКЛ перамагло ўтрая большае маскоўскае войска.**

А 10 раніцы 7 верасьня ў аршанскай царкве сьвятога Леаніда адбыўся малебен у памяць палеглых.

«Мы запалілі сьвечкі і разам маліліся за



супакой душаў загінулых ваяроў. Зранку малебен, які замовілі прыхільнікі БХД, прайшоў у царкве, а ўвечары памінальная служба пройдзе ў аршанскім касьцёле сьвятога Язэпа», — апавёў аршанскі актывіст **Яўген Анішчанка.**

Пасьля малебну актывісты скіраваліся на поле Аршанскай бітвы. Гэта тэрыторыя ўздоўж рэчкі Крапівенкі каля вёскі Гацькаўшчына Аршанскага раёну.

Каля каменя-помніка, што стаіць на самым узьбярэжжы, яны разгарнулі бел-чырвона-белыя сьцягі, усклалі кветкі і вянок з надпісам «Ваярам, загінулым за Бацькаўшчыну», запалілі сьвечкі, ушанаваўшы памяць палеглых хвілінай маўчаньня.

Потым з разгорнутымі сьцягамі падняліся на пагорак, дзе ў памяць пра герояў Аршанскай бітвы ўсталяваны вялікі драўляны крыж, прымацавалі да яго бел-чырвона-белую стужку.

Мясцовы жыхар-вясковец апавёў, што да яго напярэдадні заходзіў участковы міліцыянт — прасіў паведаміць, калі на полі будуць зьяўляцца чужыя людзі. Само поле Аршанскай бітвы ўчора ўзаралі. Так робяць ужо другі год запар, каб да мэмарыяльнага крыжа і помніка нельга было пад'ехаць на машынах.

З 1992 году сюды зьяжджалася шмат людзей, бо на гэтым полі ладзіўся бардаўскі фэст «Аршанская бітва». Але ў апошнія гады міліцыя зрывала мерапрыемства — удзельнікаў затрымлівалі, і на поле празь міліцэйскія кардоны трапіць было немагчыма. Таму фармат фэсту быў зьменены: у выходныя на пачатку верасьня людзі пачалі зьбірацца ўжо не вялікай грамадой вакол агульнага вогнішча, а сяброўскімі кампаніямі ў бліжэйшых ваколіцах.

Але само месца гістарычных падзеяў не забытае: яго даглядаюць мясцовыя актывісты. Сёлета да ўгодкаў Аршанскае бітвы яны ўсталявалі новы крыж на пагорку каля дарогі Ворша — Дуброўна, на пад'езьдзе да вёскі Гацькаўшчына.

# ПІКЕТ У АБАРОНУ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

**У апошнія дні агітацыйнай кампаніі ў розных раёнах Оршы можна было сустрэць пікеты, якія былі арганізаваныя камандай кандыдата ў дэпутаты Канстанціна Анташкевіча ў падтрымку беларускіх палітвязняў.**

Мінакі маглі ўбачыць стэнд з іх партрэтамі і адрасамі калоній і СІЗА, дзе яны ўтрымліваюцца. Некаторыя з аршанцаў, якія прыйшлі на пікет, выказаліся за тое, каб накіраваць словы падтрымкі палітвязням **Ігару Аліневічу** і **Алесю Бяляцкаму,** якія ў бліжэйшыя дні будуць за кратамі адзначаць свой дзень нараджэння.

У выніку ім былі адпраўленыя тэлеграмы наступнага зместу: "Падтрымліваем вас і вашу барацьбу за будучую вольную і справядлівую краіну. Верым, што такія часы неўзабаве наступяць. Жадаем вам сілы духу і волі да непазбежнай перамогі".

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"